# Ніва

„NIWA“ – TYGODNIK BIAŁORUSKI W POLSCE

ГОД I № 42 БЕЛАСТОК, 16 СНЕЖНЯ 1956 г. Цана 60 гр.





Наша архітэктура — Царква ў Малой Нарайцы.
Фото — З. Лясота.

## Кадравае аднаўленне

Ва ўсіх партыйных арганізацыях і інстытуцыях, ва ўсіх грамадскіх, Павятовых і Вaяводскіх радах нарадовых, ва ўсіх установах і прадпрыемствах адбываецца цяпер генеральнае аднаўленне кадраў. Па патрабаванню працоўных з дзяржаўнага, палітычнага і гаспадарчага кіраўніцтва адыходзяць людзі, якія дапусціліся ў мінулым цяжкіх памылак, якія страцілі давер'е ў народзе. Масы працоўных на многалікіх сходах, сесіях і канферэнцыях смела выкрываюць кар'ерыстаў, гультаёў, п'яніц, невукаў і выганяюць іх з кіраўнічых пасад. Масы дамагаюцца каб адыйшлі ад улады і ўсе тыя людзі, якія няздольныя аздаравіць і аднавіць нашае жыццё.

І гэта правільна, таму, што не змяняючы людзей нельга адкінуць мінулага, якое багатае злом, нельга вызваліцца ад метадаў сталінізма. Вядома, што кожная сістэма кіраўніцтва, залежыць ад людзей, у руках якіх улада знаходзіцца. Таму не падлягае дыскусіі патрэба такой адновы кіраўнічых кадраў.

Нажаль на некаторых выбарчых сесіях, канферэнцыях ці сходах часта здараецца так, што даходзяць да голасу розныя людзі якія «падчапіліся» да нашай рэволюцыі, якія імкнуцца ўвесь кіраўнічы апарат падцягнуць пад адзін агульны выказнік — «сталінцаў». Такія элементы ачарняюць сумленных, ахвярных дзеячоў, членаў партыі, якія ў мінулым дзеля будаўніцтва соцыялізма займалі самыя цяжкія пасты, якія няслі на сабе ўсю цяжкасць гаспадарчага будаўніцтва, і якія вядома, блудзілі разам з усёй партыяй. У гэтым ліку многа ёсць партыйных і грамадскіх дзеячоў — беларусаў.

Мы ведаем, што некаторыя беларусы на кіраўнічых пасадах дапусціліся цяжкіх памылак у сваёй дзейнасці і яны безумоўна павінны адыйсці ад кіраўніцтва. Але многа ёсць беларусаў — ахвярных людзей, сумленных комуністаў, якіх трэба бараніць перад усякімі дэмагогамі, перад тымі, ад якіх патыхае нацыяналізмам. Вядома, тут павінна перамагчы разважлівасць, якая дапаможа вырашыць гэтае складанае пытанне, а менавіта, ацэньваць людзей.

Трэба мець адкрытыя вочы. Нельга дапусьціць да палітычнай слепаты пры ацэнцы людзей. Цяпер, акрамя таленавітых дзеячоў, якіх у мінулым сапраўды праследвала сталінская сістэма і якім належыцца поўная рэабілітацыя, ёсць такія «мучанікі» сталінскай сістэмы, якіх адсунулі ад «актыўнай» дзейнасці за ашуканства, зладзействы, за поўную арганізацыйную няздольнасць, а таксама за ўсякія цёмныя справы. І яны хапляюцца ўсякіх метадаў у дасягненні сваёй мэты — зноў уключыцца ў «актыўную» дзейнасць.

І такіх «актывістаў» трэба гнаць. Справа ў тым, каб горшых людзей замяніць — лепшымі, каб ацэньваць кожнага чалавека на аснове канкрэтных умоў яго дзейнасці, каб справы нацыянальнасці не адыгрывалі ніякай ролі.

М. Х.

АЛЕСЬ БАЖКО.

### СМЯЕЦЦА НАРАЧ

*Смяецца Нарач —*
*Сёння зноў*
*Рыбак не там закіў снасці,*
*Бо лодка з невадам яго*
*Ля берагоў шукае шчасця.*
*Ды хвалі ў ранішнім пяску*
*Зацерлі след юнацкай мары.*
*Дарэмна позіркам хлапец*
*Усю аколіцу абшарыў.*
*Дзяўчына клікала — не чуў:*
*Лускою хваль пакрыўся плёс,*
*І вецер лодку рыбака*
*На выглыб з песняю панёс.*
*Там надвячоркам маладзік*
*Раскіне залатыя снасці...*
*Смяецца Нарач —*
*Зноў рыбак*
*Не там свайго шукае шчасця.*

ЛЕУКА МІРАЧЫЦКІ

## Сцежкамі вялікага паэта (2)

А зараз цераз Карэлічы, Гарадзішча — мы накіруемся ў Завоссе. Нас праважаюць задумлівыя бярозы, вербы, якія роўнымі радамі стаяць уздоўж дарогі; пранасяцца зялёныя лугі, пасевы збажыны, акружаныя яблынявымі садамі.

А вось і мястэчка Цырын. Сюды з сваім бліжэйшым сябрам Чачотам Адам Міцкевіч заязджаў да знаёмых. Ян Чачот быў яго равеснік і зямляк, адзін з першых беларускіх этнографаў і фалькларыстаў 19 стагоддзя. Сяброўства паміж Міцкевічам і Чачотам пачалося яшчэ ў Новагрудскай домініканскай школе. Асабліва цесным зрабілася іх сяброўства ў перыяд сумеснага навучання ў Віленскім універсітэце. Яны абодва актыўна прынімалі ўдзел у студэнцкіх арганізацыях. У вачох малодшых таварышаў Міцкевіч і Чачот былі ўзорам чалавечай годнасці і самаадданага служэння агульнай справе. Апрача студэнцкіх арганізацый яны былі звязаны паміж сабою ніцямі інтымных узаемаадносін, сардэчнай дружбы. Ян Чачот разумеў і шанаваў здольнасці свайго калегі. Кожны новы твор Міцкевіча ён сустракаў з пачуццём шчырай радасці і горда[сці] за аўтара. У 1819 годзе, калі адзначалі дзень нараджэння Міцкевіча, Чачот прысвяціў свайму сябру песню на беларускай мове, якая начыналася славамі: «Едзеш міленькі Адам». Песня выражала пачуццё сяброўскай адданасці і пашаны...

*Без цябе ўсё тут смутна,*
*Па табе плача гай,*
*І рэчкі плывуць мутна,*
*У жалобе ўвесь край.*

Аб сваіх адносінах да Яна Чачота Міцкевіч пісаў яму ў пісьме: «Што датычыцца дружбы, то, клянуся яе святым імям і ўсім, што мне было дорага і што цяпер найбольш дорага, я лічу цябе такім сябрам, якога толькі можна жадаць; я не хачу і не магу мець большага, я ні да каго не быў такім прыхільным і нікога не любіў у такой меры». Едзем далей...

Прасёлачная дарога. Нас сустракае блізкі знаёмы з дзяцінства сельскі пейзаж. Мінаем чараду стройных калдычэўскіх бярозак. Невялікі пад'ём — і паміж дрэў паказаўся каменны абеліск. На ім залаціцца надпіс:

«Тут, у Завоссі, 24 снежня 1798 года нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч». А побач растуць каштаны, ліпы, яблыні. Яны быццам стаяць на ганаровай варце. Паблізу ні адной хаты, але палявыя сцяжынкі не зарастаюць травою. Сюды прыходзяць людзі, кладуць у падножжа абеліска жывыя кветкі, падоўгу затрымліваюцца, быццам яшчэ і яшчэ раз удумліваюцца ў гэтыя простыя словы, у якіх выражана і памяць, і любоў, і гордасць за вялікага земляка.

(Працяг на стар. 3)



« Іграй ...іграй, расказвай, тальяначка мая» — чытай стар 4.

# Сцежкамі вялікага паэта

(Працяг са стар. 1.)

Дом, у якім убачыў свет будучы паэт, амаль нічым не адрозніваўся ад сялянскіх хат — звычайны шляхецкі засценак: хата на дзве палавіны з саламянай страхой і ганкам, свіран, хлеў, а пры іх калодзежны журавель. Бацька паэта Мікалай Міцкевіч, прадстаўнік дробнапамеснай шляхты, быў адукаваным чалавекам. Ён добра ведаў і любіў паэзію, нават сам пісаў вершы. Будучы адвакатам пры Новагрудскім судзе, Мікалай Міцкевіч здабыў папулярнасць як заступнік пакрыўджаных сялян і дробнай шляхты.

У Завоссі Адам Міцкевіч жыў не доўга. Калі яму споўнілася тры гады, бацька, Мікалай Міцкевіч, пакінуў сядзібу і пераехаў разам з сям'ёю ў Новагрудак, дзе працаваў адвакатам. Але і пазней, калі Адам Міцкевіч жыў у Навагрудку, вучыўся ў Віленскім універсітэце, не забываў роднага хутара. У час канікул паэт прыязджаў да сваякоў, гасціў у іх, любіў разам з імі падарожнічаць па родных мясцінах, збіраць грыбы, хадзіць на паляванне. Ён наведваў суседнія вёскі, адпачываў на беразе Калдычэўскага возера. Паводле падання, тут у яго ўзнікла задума і нарадзіліся першыя строфы балады «Тукай», або выпрабаванне дружбы, якую пасля закончыў яго сябра Эдвард Адынец.

І вось мы зноў у дарозе. Выязджаем на Навагрудскі шлях — шлях Міцкевіча, як прынята яго называць у народзе. Зварочваем на права... Раённы цэнтр Гарадзішча. Адсюль мы трымаем кірунак на вёску Карчовая. Нас праваджае густы лес. Галіны дрэў, якія звісаюць над дарогай, ствараюць казачны калідор. Здаецца, што яго зрабіла чалавечая рука. Раптоўна лес раступіўся, праязджаем міма Кутаўскай воднай электрастанцыі. Яшчэ адзін пад'ём — і перад нашымі вачыма адкрыўся від на старадаўні парк.

Туганавічы.

Мы спыняемся каля высокіх дрэў. Шэсць ліп ствараюць прыгожую альтанку. Гэта пад ценем іх паэт сустракаўся з Марыляй Верашчака, вялікае пачуццё кахання да якой ён пранёс праз усё сваё жыццё і творчасць. Дрэвы старыя, але яны і сёння, як магутныя веліканы, горда ўзвышаюцца над паркам і нібы поўнапраўныя гаспадары агладаюць свае ўладанні. Аб іх сумаваў паэт на чужыне:

*Родныя дрэвы! Калі неба дазволіць,*
*Каб да вас я вярнуўся, да сяброў сваіх старых,*
*Ці знайду яшчэ вас? Яшчэ вы жывыя?*

Так, гэтыя дрэвы яшчэ жывуць. Яны многае бачылі на сваім вяку, добра памятаюць апошнія тры вайны, якія моцна змянілі стары парк. Ён парадзеў, некаторыя дрэвы засохлі, абпаленыя бязлітаснай маланкай, але і сёння ён прыгожы!

Вясною тут распускаецца бэз, шматгадовыя каштаны ўздымаюць да неба свае белыя свечы, цвітуць яблыні, над сажалкай шумяць вербы.

А вось і падмурак, дзе стаяў дом бацькоў Марылі Верашчака. Ён знаходзіцца недалёка ад альтанкі.

Многія ведаюць аб тым, што паэт пасадзіў у парку бярозку. Усе, хто прыязджае сюды, стараецца пераканаць сябе, а потым і другіх, што ён бачыў бярозку, што быццам-бы яна і сёння расце. У парку ёсць некалькі бяроз і паспрабуйце сярод іх адшукаць тую, якую пасадзіў паэт.

У народзе жыве такая легенда:

Аднойчы пры сустрэчы Адам Міцкевіч выказаў Марылі сваё сумненне. «Мы не будзем з табою шчаслівымі». Дзяўчына старалася пераканаць яго ў адваротным. Тады паэт рашыў, што лепшай сведкай іх шчасця будзе бярозка, якая недалёка, тут-жа, расла. Ён выкапаў яе і пасадзіў у звычайны сялянскі дзіравы кошык: «Няхай яна расце і стане памяццю аб тым, што быў час, калі дзяўчаты выходзілі замуж без кахання», — сказаў паэт. У гэты дзень Марыля многа праліла слёз. Ад распачы яна хацела бярозку вырваць, знішчыць. Але вырваць з сэрца каханне да Адама аказалася немагчымым. Марыля прыходзіла даглядаць бярозку. Кошык разам з дрэўцам яна абсыпала зямлёй. Бярозка паступова набірала сілы, глыбока пусціла карэнні, стала пышнай і прыгожай быццам дзяўчына на выданні...

Прайшло нямнога часу, а многае змянілася. Марыля выехала з Туганавіч, паэт назаўсёды пакінуў родныя мясціны, а бяроза расла.

Жыхары навакольных вёсак добра памятаюць яе. Галіны на ёй былі доўгімі, гібкімі, а лісцёвае ўбранне — раскошным, святочным. Але зараз, чамусьці ва ўсіх складалася ўражанне, што бяроза плача, што яе доўгія галінкі — гэта слёзы, якія пралівае Марыля па сваім каханым...

Доўгія гады бяроза не баялася ні ветраў, ні буры. Перад першай сусветнай вайной яна занемагла. Ляснік клапатліва даглядаў дрэва, каля яго камля насыпаў метр зямлі. Сілы бярозы былі ўсё-такі слабыя. У 1916 годзе яна загінула.

Дзяўчаты, наведваючы парк, не могуць звыкнуцца з думкай, што бярозы няма. Яны ахвотна раскажуць многа легенд, паданняў аб ёй. «Бяроза расце, умейце яе адшукаць — яна ўзнагародзіць вас шчасцем», — гавораць яны.

Разглядзеўшы парк, мы накіруемся па палявой сцяжынцы, якая прывядзе да глыбокай лагчыны, акружанай хвойнымі і лісцёвымі дрэвамі. У гэтым маляўнічым кутку ляжыць велізарны камень. Ён нагадвае нешта накшталт гіганцкага п'едэстала, трыбуну, з якой вось, вось павінен выступіць прамоўца. Магчыма гэта і была калісьці трыбуна. Тут збіраліся члены вольналюбівага таварыства, горача абмяркоўвалі свой статут — «працаваць на карысць радзімы, навукі і дабрачыннасці».

Каля гэтага камня Адам Міцкевіч і яго сябры — філарэты далі клятву на вернасць сваім ідэалам, а трыбуна, на якой свабодна змаглі змясціцца ўсе ўдзельнікі, толькі што створанага гуртка, і па сённяшні дзень у народзе носіць традыцыйную назву — «Камень філарэтаў».



Камень філарэтаў.



Па дарозе то падымаючыся, то апускаючыся з невялікіх пакатых пагоркаў мы рухаемся далей; на некалькі хвілін затрымліваемся ў Варончы каля васьмісотгодняга дуба. Нельга не залюбавацца гэтым старэйшым помнікам беларускай прыроды, пад густым шатром якога не раз знаходзіў гасцінны прытулак паэт. Паспрабуем яго абняць... Але не так проста. Патрэбна адзінаццаць чалавек.

Плужынскі бор.

Паварот, і раптоўна між ствалоў сасновых дрэў і густых галін бліснула люстранай гладдзю Свіцязь.

Спыняемся амаль ля самага берага. Над вадою, нібы гронкі залатога вінаграда, звісаюць галіны бярозы. Тут растуць векавыя дубы, вязы, грабы і ўсе разам ствараюць велізарны вянок.

Навокал цішыня... А хвалі плешчуцца, б'юцца аб бераг, коцяцца назад і зноў наступаюць у брызгах і пене...

Паглядзіце! Тут нельга не быць паэтам...

Беларускі народ склаў многа легенд і паданняў аб возеры Свіцязь. Адны з іх расказваюць, што на дне возера знаходзіцца горад і палац, якія затоплены па просьбе (малітве) безабаронных дзяўчат у час нашэсця ворагаў. Другія легенды гавораць аб з'яўленні над возерам русалак, якіх завуць свіцязянкамі.

Любімае возера паэта. Па сваёй прыгажосці яно сапернічае з найпрыгажэйшымі азёрамі Еўропы — Жэнеўскім возерам і возерам Рыца. Тут, у казачным кутку Беларусі, Адам Міцкевіч, заўсёды знаходзіў натхненне, а народныя легенды, паданні, песні, назаўсёды ўвайшлі ў яго сэрца, каб потым гулкім рэхам прагучаць у неўміручых радках балад і паэм.

Каго не зачароўвае прыгожасць Свіцязі?! Возера стала любімым месцам адпачынку працоўных. У выхадныя дні сюды прыязджае моладзь з навакольных калгасаў. Штогод тут спраўляецца свята песні. І тады над возерам гучыць музыка, гучаць беларускія народныя песні, якія так любіў слухаць паэт. Затым іх змяняюць другія, новыя песні, песні аб працы, аб міры...

Мы заканчваем падарожжа па сцежках вялікага паэта. З імі мы развітаемся і паабяцаем, што да іх яшчэ вернемся.

ЛЕУКА МІРАЧЫЦКІ
Новагрудак
жнівень 1956 г.



Від на возера Свіцязь



# Помнік Янку Купалу і Якубу Коласу

Імёны народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа шырока вядомы не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Светлая памяць аб народных песнярах будзе вечна жыць у сэрцах працоўных. Іх імёнамі названы вуліцы і плошчы беларускіх гарадоў, тэатры і бібліятэкі, калгасы, школы і прамысловыя прыдпрыемствы. У сталіцы рэспублікі — Мінску створан літаратурны музей Янкі Купалы, а на радзіме паэта, у вёсцы Вязынка Радашковіцкага раёна адкрыт яго філіял. У скверы, на Цэнтральнай плошчы ўстаноўлен бюст Янкі Купалы. Імем Якуба Коласа названы Мінскі паліграфічны камбінат, плошча, на якой ён пабудаван, інстытут мовазнаўства і фундаментальная бібліятэка Акадэміі навук БССР.

У Мінску будуць узведзены помнікі народным паэтам Беларусі Янку Купалу і Якубу Коласу. Дзяржаўны камітэт Совета Міністраў Беларускай ССР па справах будаўніцтва і архітэктуры і Саюз архітэктаў БССР аб'явілі адкрытыя конкурсы на складанне праектаў гэтых помнікаў. Помнік Янку Купалу будзе ўстаноўлен перад будынкам Беларускага Дзяржаўнага ордэна Леніна вялікага тэатра оперы і балету, а Якубу Коласу — на плошчы яго імя.

(БЕЛТА).

